Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

18-24 красавіка 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№16 (104)

РАТАВАННЕ „911” У РЭГІЁНЕ



Чытайце наступны нумар.

# Непажаданае дзіцё: яго месца на сметніку?

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Адразу ўдакладню, што крымінальная справа па прыведзеным факце не ўзбуджалася: маці нарадзіла немаўля нежывым, таму яе ўчынак можа падлягаць толькі маральнаму асуджэнню. З памкненняў гуманнасці дадзеныя па ёй не даем. Дваццацігадовай жанчыне яшчэ ствараць сям'ю, нараджаць у шлюбе, выхоўваць сваіх дзяцей. Ці ўспомніць яна аб той дзяўчынцы?*

Да маладой і прыгожай прыйшло каханне. Сустракалася з хлопцам, зацяжарыла. Апошняе яго зусім не ўзрадавала. Дзіцё было непажаданае. Жанчына да апошняга "зацягвалася"— насіла на жываце тугія паясы, аддавала перавагу шырокаму аддзенню.

Ноччу, калі пачаліся схваткі, выбегла з бацькоўскай хаты, быццам у прыбіральню. У хляве нарадзіла нежывое дзіцё. Пабаялася нават яго пахаваць. Кінула бездыханнае цельца на кучу саломы са смеццем і вярнулася ў хату. Пасля таго, як вяскоўцы знайшлі труп і маці была ўстаноўлена, жынчына малілася, каб ніхто нічога не казаў яе родным.

**Аляксандр Квяткоўскі, судова-медыцынскі эксперт:**

— Па папярэднім судова-медыцынскім заключэнні, немаўля нарадзілася нежывым. Дата нараджэння— прыблізна пачатак лютага. Рост 51 сантыметр. Ёсць падставы сцвярджаць, што дзіця даношанае (сярэднестатыстычныя дадзеныя). Прычыну смерці ва ўлонні маці вызначыць немагчыма, бо адбыліся гніласныя змяненні цела. Таксама труп пашкоджаны сабакамі— адгрызеныя верхнія канечнасці, правая галёнка, частка галавы, на целе мноства ўкусаў.

Больш за два тыдні праляжаў труп на сметніку. "Маці"



дакладна ведае дату яго знікнення адтуль. Дзяўчынка дасталася сабакам. Яны цягалі яе па вуліцы каля месяца, пакуль вяскоўцы не адабралі "здабычу".

**У псіханеўралагічным дыспансеры**

сказалі, што па гэтым факце немагчыма вызначыць, ці мела жанчына псіхічнае захворванне.

**У сельсавеце**

паведамілі, што сям'я станоўчая. Бацькі працавітыя: маці працуе на ферме, бацька— будаўнік. Сама маладзіца ў калгасе сябе не знайшла. Дзесьці працуе будаўніком.

Па труп у морг ніхто не прыехаў. Забралі аператыўнікі і крэміравалі.

Прозвішча жанчыны і месца яе жыхарства мы ведаем. Абяцалі гэтыя дадзеныя не публікаваць. Але не абяцалі не перадаваць "маці" вашы лісты-водгукі на яе ўчынак.

*Васіль САВІЦКІ,*
*фота Вяч. ТАМАШЭВІЧА.*

## Чарговы матэматык

*У табліцы "Будуць свае акадэмікі" ("РГ" ад 11-17 красавіка) прапушчаны "геній" з Валожына.*

З сярэбраным медалём вярнуўся з рэспубліканскай алімпіяды па матэматыцы, якая праходзіла ў Магілёве, вучань 9 класа СШ №1 Яўген Куцук. Летась Яўген такія выпрабаванні сярод васьмікласнікаў выйграў. Дарэчы, матэматыку ў яго класе выкладае маці, якая па-праву падзяліла поспех сына.

У старэйшай школе райцэнтра добрыя матэматычныя традыцыі. Сярод яе выпускнікоў доктар матэматычных навук Анатоль Яблонскі, прафесар, загадчык кафедры БДУ Якаў Радына, які сёлета аб'яўлены лаўрэатам Дзяржпрэміі РБ за 1996 год. Тут выкладае матэматыку адзіны ў раёне настаўнік-уладальнік сорасаўскага гранта Лідзія Уланчык.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Дапаможнікі для 9-класнікаў і выпускнікоў школ,

*пра якія пастаянна давала інфармацыю "РГ", надрукаваныя. Нягледзячы на крыху запозненыя тэрміны, брашура вельмі патрэбная для школьнікаў, выкладчыкаў, абітурыентаў.*

"РГ" не займаецца непасрэдным распаўсюджваннем, але для сваіх чытачоў паведамляе: на наступным тыдні будзе арганізавана дастаўка дапаможніка ў райцэнтры рэгіёна, таму пажадана, каб школы далі нам арыенціровачныя (не абавязковыя да куплі!) аб'яднаныя заказы. Усе, хто даслаў свае заяўкі, выданне атрымаюць. Для паскарэння выканання заказаў і змяншэння выдаткаў на перасылку жадаючыя змогуць звярнуцца па адрасах і тэлефонах (іх мы паведамім дадаткова) непасрэдна ў сваіх райцэнтрах.

*Аддзел інфармацыі.*



## Адным абзацам

**А**дным з пунктаў падпісанага А. Лукашэнкам дэкрэта №10 установлена, што выплаты па сістэме прэміравання рабочых, служачых і кіраўнікоў за вытворчыя вынікі (так званая прагрэсіўка) звыш за 40% тарыфнай стаўкі або акладу ў разліку на аднаго работніка ажыццяўляецца за кошт прыбытку, што застаецца ў распараджэнні прадпрыемстваў.

**З** 1 ліпеня амаль удвая павышаюцца тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі; такім чынам, грамадзяне будуць пакрываць 40% эксплуатацыйных затрат.

**Н**а заўтрашні дзень прыйдзецца пік рэспубліканскага суботніка, што праводзіцца па ініцыятыве працоўных калектываў. На Маладзечаншчыне многія прадпрыемствы ўжо добра папрацавалі на добраўпарадкаванні горада. На жаль, па стане на сярэдзіну месяца ніводнай заяўкі на пасадачныя матэрыялы ў зялёна-паркавую гаспадарку не паступіла.

**Н**а гэтым тыдні адбыўся чарговы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На ім узняты шэраг пытанняў, звязаных з сённяшнім станам пакуль яшчэ дзяржаўнай мовы, але сам факт адсутнасці на з'ездзе дзяржаўных чыноўнікаў сведчыць аб стаўленні ўлады да беларускай мовы. Паэт Генадзь Бураўкін абраны старшынёй таварыства. Яшчэ адзін факт, які вызначае дзяржаўную палітыку ў адносінах да беларускай мовы,— газета "Наша слова" пазбаўлена дзяржаўнай датацыі.

**23** красавіка пройдзе літаратурная сустрэча з пісьменнікамі Маладзечаншчыны і самадзейнымі паэтамі. Арганізатарамі свята сталі супрацоўнікі раённай цэнтральнай бібліятэкі.

**А**д красавіка чыгуначнікі знайшлі магчымасць дадаць па выхадных днях па пяць пар электрацягнікоў на ўсе напрамкі.

**Н**апярэдадні дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў смаргонскім выканкомам, мясцовай газетай праводзіцца конкурс "Памяці жыць" на лепшы тэматычны матэрыял. На старонках газеты "Светлы шлях" будуць змяшчацца артыкулы, замалёўкі ветэранаў, невялікія мастацкія творы. Акрамя гэтага ўстаноўлены тры грашовыя прэміі— 300, 200 і 150 тысяч рублёў.

**К**убак Гродзенскай вобласці па лёгкаатлетычным кросе прайшоў у Лідзе. Спаборнічалі 20 каманд. Спартсмены-аматары з Ашмянаў занялі другое агульнакаманднае месца сярод раёнаў, што расцэньваецца як поспех. У каманду ўваходзілі работнікі калгаса імя Ф. Багушэвіча, слясарнай базы "Баруны", навучэнцы ПТВ-192, сельгастэхнікума, школьнікі.

**Н**а маладзечанскім чыгуначным вакзале ўстаноўлена новае электроннае табло, якое паказвае дакладны час, выдае на 100 мінут наперад інфармацыю аб руху цягнікоў. Знойдзецца на ім месца нават для рэкламы. Табло па сваіх характарыстыках лепшае за сталічнае; Барысаў, Орша падобнага наогул не маюць.

**Ш**асцікласнік Валожынскай СШ №1 Аляксей Папкоў падарыў дзіцячай раённай бібліятэцы 70 сваіх падручнікаў, мастацкіх кніжак. Усе яны ў добрым стане і не адзін год будуць служыць маленькім чытачам.

**А** шасцікласнік адной са школ Вілейкі на ўроку гуляў з баявым патронам. На заўвагу настаўніка адрэагаваў своеасабліва— заўтра прынясу цэлую абойму. Як потым высветлілася, патроны знайшоў. На зямлі.

**Н**а базе дзіцячага садка, што ў мікрараёне вілейскага "Зеніта", працуе пачатковая школа (СШ №6). Нядаўна ў ёй прайшоў семінар. Дырэктары і намеснікі іншых школ горада адзначылі багатую матэрыяльную базу пачатковай школы. І пазайздросцілі.



## Навіны

### Беспрацоўныя "банкіры"

*АСТРАВЕЦ. Назіраецца тэндэнцыя да змяншэння банкаў, ды і банкіраў таксама. З-за нізкай рэнтабельнасці летась спыніла сваё існаванне аддзяленне "Белбізнесбанка". І вось яшчэ адна непрыемная вестка— у аддзяленні "Белаграпрамбанка" прайшло скарачэнне штатаў. Восем "банкіраў" апынуліся без справы. Аб прычынах гаворыць кіраўнік Сяргей Малышаў.*

— Тэхналогіі, у тым ліку і банкаўскія, развіваюцца, і іх укараненне прыносіць свой плён. Гэта дае магчымасць вызваліць многія працоўныя месцы. Тлумачыцца ўсё проста: калі раней над адной банкаўскай аперацыяй было занята некалькі чалавек, то сёння з дапамогай камп'ютэрных праграм яе выконвае адзін чалавек. Гэта першая прычына скарачэння. Другая хаваецца ў памяншэнні работы - у аддзеле знешнеэканамічнай дзейнасці: прыкладна палова работнікаў была скарочана менавіта там.

І хаця сёння аддзяленне працуе ў звычайным рытме, тым не менш людзі заняты пошукам працы. Нічога тут не паправіш, бо такія ўмовы дыктуе рынак.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Атрымайце партфель

*СМАРГОНЬ. Грамадскую пасаду можна атрымаць, не выходзячы з кватэры. Па месцах жыхарства адраджаюцца дамавыя камітэты.*

Старэйшыя па дамах, пад'ездах, вуліцах ужо будуць тэлефанаваць у ЖЭУ не як простыя скаржнікі, а выбраннікі народа. Не сакрэт, што дзяржаўная маёмасць найчасцей псуецца рукамі кватэраздымшчыкаў, імі ж, бывае, утвараюцца сметнікі. Дагледзець, выправіць і, калі трэба, пакараць— задачы дамавых камітэтаў.

*Аддзел інфармацыі.*

### 3,5 тысячы на 9 залаў

*ВАЛОЖЫН. Ганаровае званне "народны" у апошнія дні лютага прысвоена музею імя Сымона Буднага Лоскай базавай школы. Гэта другі школьны музей на Валожыншчыне, якому прысвоены такі высокі статус.*

Першы— гісторыка-краязнаўчы музей Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната. Гэта любімае тварэнне дырэктара ўстановы Фёдара Гольдшміта, які 16 красавіка адзначыў 30-гадовы юбілей на сваёй пасадзе. У дзевяці залах музея размешчана звыш за 3,5 тысяч экспанатаў, экспазіцыя сістэматычна папаўняецца і абнаўляецца. Шматлікія госці старажытнага пасёлка абавязкова наведваюць і народны музей, пакідаючы ўсхваляваныя водгукі ў спецыяльным журнале.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Абновы

*АСТРАВЕЦ. Мясцовыя лесаводы радуюцца— днямі прыдбалі два новыя трактары МТЗ.*

Праўда, за ўласныя грошы іх не купілі з прычыны нястачы фінансаў. Дапамог крэдыт. Яго на вядзенне інтэнсіўнага лесаводства для міністэрства лясной гаспадаркі выдзеліў Міжнародны банк. Такім чынам атрымаліся "абновы", якія аказаліся дарэчы, бо трактарны парк патрабаваў замены.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Дзіцячы садок года

# Няўмейка – гэта асоба



***МАЛАДЗЕЧНА. Садок №17 завода лёгкіх металаканструкцый стаў лаўрэатам конкурсу сярод дзіцячых дашкольных устаноў рэспублікі. У калектыве шырока выкарыстоўваюцца нетрадыцыйныя метады выхавання і навучання.***

Хлопчыкі і дзяўчынкі дашкольнага ўзросту— гэта амаль заўсёды няўмейкі. Звычайна яны не ўмеюць апранацца, мыцца і правільна трымаць у руках лыжку, але кожны з іх— асоба. У дзіцячым садку створаны добрыя ўмовы для развіцця выхаванцаў. 170 з іх за невысокую плату займаюцца ў гуртках англійскай мовы, харэаграфіі, студыі выяўленчага мастацтва. З вялікім задавальненнем яны наведваюць бясплатныя заняткі ў групе рытмічнай гімнастыкі, у драматычным гуртку. Пад кіраўніцтвам вопытнага лагапеда выпраўляюць дэфекты свайго маўлення. Для прафілактыкі хвароб і лячэння пацыентаў створаны медыцынскі комплекс. Працуе кабінет фізіятэрапеўтычных працэдур. Пад кантролем медработнікаў дзеці атрымліваюць інгаляцыі і масаж, умацоўваюць сваё здароўе ў плавальным басейне і на занятках лячэбнай фізкультурай.

Шмат год калектыў дзіцячага садка з'яўляецца базавай эксперыментальнай пляцоўкай для Рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў. На базе ўстановы з поспехам прайшлі семінары (у тым ліку і "Нетрадыцыйны падыход да арганізацыі фізвыхавання").

*Наталля РАБЧАНКА.*



## Крымінал, здарэнні

### З'елі грошы

***ВІЛЕЙКА. За першы квартал года супрацоўнікамі аддзела эканамічнай злачыннасці (іменна так ён цяпер называецца!) выяўлена 37 злачынстваў. 11 з іх - крадзяжы дзяржаўнай маёмасці адказнымі асобамі, 4 - у асабліва буйных памерах.***

Кафэ-кулінарыя "Пралеска" са снежня па сакавік спрацавала стратна. Па дакументах рэшта тавару склала 58 млн. рублёў. У наяўнасці аказалася на 20 мільёнаў. За 4 месяцы нястача 38 мільёнаў. Немагчыма ўявіць, хто з'еў такія грошы, і як прадавец думаў (калі думаў) іх вярнуць. Узбуджана крымінальная справа. Пакуль знойдзены шлях, па якім "пайшла" трэцяя частка нястачы.

*Аддзел інфармацыі.*

### Ахвяра агню

***ВАЛОЖЫН. 28 сакавіка каля 20 гадзін вечара ў вёсцы Старынкі Івянецкага сельсавета загарэўся жылы дом.***

У дыме задыхнуўся палявод мясцовага калгаса "Радзіма" 26-гадовы Генрых Княжэвіч. Ён, дарэчы, і стаў вінаўнікам пажару: на добрым падпітку надумаўся пакурыць у ложку.

Без бацькі засталіся двое малалетніх дзетак, без мужа— жонка, без сына— бацькі. Маглі застацца яшчэ і без даху над галавой, але пажар удалося ліквідаваць. Вось толькі чалавека не выратавалі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Без паперкі ты... злачынца

***АШМЯНЫ. За парушэнне парадку і правілаў пражывання, перамяшчэння ў пагранічнай зоне толькі за адзін рэйд затрыманы 22 чалавекі.***

Гэта людзі, якія прыехалі да сваякоў, па асабістых справах. І тым не менш яны будуць аштрафаваныя да 3 мінімалак. А калі былі затрыманы двойчы— да 5.

Справа ў тым, што пагранзона ўстаноўлена ў мяжы амаль усяго Ашмянскага раёна, за выключэннем трох сельсаветаў. Немясцовы павінен мець пашпарт і дазвол, які выдаецца на тэрмін да 6 месяцаў у любым аддзяленні міліцыі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Хто каго?

***ВІЛЕЙКА. Апошнім часам супрацоўнікі мясцовага аддзела эканамічнай злачыннасці дапамагаюць калегам з Маладзечна ў "барацьбе з валютчыкамі".***

Складзена 6 адміністрацыйных пратаколаў. Канфіскаваныя 1390 долараў ЗША, расійскія рублі, германскія маркі. Рэспубліканскі бюджэт папоўніўся на 5 млн. руб.— суму штрафаў з затрыманых.

Ля Дома гандлю на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне затрымалі прыватнага прадпрымальніка Аляксандра Семашкевіча, які прадаваў валюту. Правапарушальнік меў пры сабе грошай на добрую іншамарку.

*Аддзел інфармацыі.*

### Аддзячыў

***АСТРАВЕЦ. Штосьці страшнае і незразумелае адбываецца з людзьмі.***

Днямі перад супрацоўнікамі міліцыі паўстаў проста жахлівы факт: жыхар вёскі Кумпяны У. жорстка збіў сваю маці, якая ад атрыманых траўмаў памерла.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

## І праўнукі ўспомняць

### Шэршэ ля фам

***МЯДЗЕЛ. Замежнымі вырабамі цяпер нікога не здзівіш. А знайдзіце вы дзе самаробнае палатно з лёну або дыван з воўны сваёй работы? Для гэтага прыйдзецца паехаць не на шматлюдны гарадскі базар, а куды-небудзь у аддаленую вёску.***

У Падбярэззі жыве Галіна Падбярэзская. Сама яна з Вілейшчыны. Незвычайным для цяперашняга часу заняткам— ткацтвам— пачала захапляцца з 17 гадоў.

Колькі за ўсё жыццё выткала каляровых перабіраных дываноў, Галіна Пятроўна і сама не ведае. Бо ў хаце засталіся ўсяго некалькі ручнікоў, прасцін і дзіўных узораў дываноў. Астатнія сталі падарункамі для радні і знаёмых. Не давялося жанчыне чытаць філасофскіх кніжак, але яна ведае, што кожны чалавек павінен пакінуць нейкі след у жыцці, каб не толькі самому было што ўспомніць, але і добрым словам успаміналі вяскоўцы, унукі і праўнукі.

А вось перадаць сваё майстэрства так і не знайшлося каму. Дзе знайсці маладую жанчыну, якая б згадзілася навучыцца ткаць?

*Яніна БУГЛАК.*

## Мазаіка рэгіёна

### Дзевяціпавярховая "застава"

***СМАРГОНЬ. Тут актыўна ўводзіцца жыллё сіламі будаўнічага трэста № 41.***

Датэрмінова здадзены ў эксплуатацыю 36-кватэрны жылы дом для пагранічнікаў. Дзевяціпавярхоўка добра ўпісалася ў ландшафт мікрараёна "Усходні". Наогул, па горадзе ўзводзіцца 5 дамоў жыллёва-будаўнічых кааператываў і 4— для моладзі.

*Аддзел інфармацыі.*

### "Жывая" капейка

***ВАЛОЖЫН. Ажно чатыры крамы мае калгас "1 Мая". Адну адкрыў на цэнтральнай сядзібе— у вёсцы Сакаўшчына, у былым памяшканні лазнева-пральнага камбіната. Другую— у памяшканні вясковага клуба, таксама на калгаснай тэрыторыі.***

А найбольш адчувальны прыбытак дае "Лілея" у самым цэнтры Валожына. Карыстаецца вялікім попытам прадукцыя калгаснага комплексу буйной рагатай жывёлы. Не залежваюцца супавыя наборы, фарш, субпрадукты, ялавічная выразка. Знаходзяцца пакупнікі на сыр "Сулугуні", на гародніну. Гараджане спяшаюцца ў гэты магазін па свежы хлеб, які штодня прывозяць са сталіцы. Заўсёды разнастайная тут рыбная прадукцыя.

Не так даўно "першамайцы" апроч прадуктовай адкрылі побач і краму прамысловых тавараў. Арандуемыя плошчы дазваляюць размясціць таксама кафэ. Зараз працуюць над яго інтэр'ерам.

Гандаль— "жывая" капейка, якая штодзённа паступае ў калгасную касу ад рэалізаванай прадукцыі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Госць, "лепшы за татарына"

***МАЛАДЗЕЧНА. Калі санкт-пецярбургскія сваякі Дзмітрыя Хаўроніна адчынілі на званок дзверы кватэры і ўбачылі на парозе радню, напэўна, былі здзіўленыя і напалоханыя.***

Харэограф маладзечанскай беларускай гімназіі падчас канікулаў прывёз у Піцер на экскурсію вучняў-сямікласнікаў. 12 танцораў з рукзакамі прадуктаў за плячыма размясціліся ў кватэры. За тыдзень дзеці з настаўнікам наведалі цырк, музеі, гістарычныя месцы. Бацькі вучняў нават тэлефанавалі ў рэдакцыю, каб выказаць падзяку педагогу.

*Аддзел інфармацыі.*

### У канторы ложак даглядчыка

***СМАРГОНЬ. На балансе калгаса імя Калініна 49 кватэр. Праўленне гаспадаркі імкнецца пашырыць жылы сектар. Робіцца гэта дзеля таго, каб спецыялісты не блукалі па свеце, а пускалі карані ў калгасе.***

Пяць гадоў ідзе прыватызацыя жылля. І таму тут праблемы кадраў не ўзнікае, бо адчуваецца клопат аб людзях. Апошнім часам вызваленае памяшканне былой канторы па загадзе старшыні праўлення Уладзіміра Сака перарабілі ў жылы дом і аддалі сем'ям даглядчыка і механізатара.

*Тарэса КУМІШЧА.*

### Пабітым шлем не далі

***АСТРАВЕЦ. Тры дні праходзіў баксёрскі турнір імя вядомага ў раёне фізкультурніка Здзіслава Шырынскага. "Біліся" на рынгу прадстаўнікі скуранай пальчаткі з Гродна, Ліды, Ашмян, Смаргоні, а таксама гаспадары. Не прыехалі на турнір, на жаль, каманды з Маладзечна, Чысці.***

Арганізавалі спартыўнае шоу мясцовы спорткамітэт і трэнер астравецкіх баксёраў Аляксей Маргуж, а спонсарам выступіў сын самога "віноўніка" Уладзімір і два мясцовыя жыхары, якія пажадалі застацца інкогніта.

"Пабілі" ў фінале амаль усіх сапернікаў астравецкія байцы рынгу, якія і атрымалі граматы ад спорткамітэта, а з рук Яна Дамброўскага, прэзідэнта рэспубліканскай федэрацыі бокса, баксёрскі шлем.

У перапынках паміж баямі мясцовыя музыканты і выканаўцы весялілі ўсіх сваімі нумарамі. Турнір абяцае стаць традыцыйным.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Госці сонечнай Італіі

***ВАЛОЖЫН. Упершыню за аздараўленне дзяцей раёна ўзялася дабрачынная Асацыяцыя "Незалежная дапамога дзецям". Першымі "ластаўкамі" сталі 58 вучняў Сакаўшчынскай, Пяршайскай і Багданаўскай сярэдніх школ, якія адправіліся ў Італію 1 красавіка і прабудуць там да 31 мая. Разам з падлеткамі ў замежжа паехалі і два настаўнікі.***

Афармляюцца дакументы на летні адпачынак у Італіі і Іспаніі яшчэ больш як на сто дзяўчынак 8-10-гадовага ўзросту з беларускай гімназіі, сярэдняй школы №2 райцэнтра і Гарадзькаўскай СШ. Беларускіх дзяцей чакаюць у гасцінных італьянскіх сем'ях.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Праклалі лінію

***СМАРГОНЬ. Адсутнасць інфармацыі аб тым, што робіцца у жылым сектары, вымусіла ўлады наладзіць прамую сувязь з насельніцтвам.***

Штодзень да поўдня можна патэлефанаваць у выканком, штосьці спытаць і калі не адразу, то праз мясцовую газету атрымаць адказ. А таксама "прасігналізаваць". Больш за ўсіх дастаецца жыллёва-камунальнай гаспадарцы: чаму, да прыкладу, няма сметніц па вуліцы Фабрыцыуса, а па вуліцы Заводскай— лавак?..

*Аддзел інфармацыі.*

### Думай, наркаман

***АСТРАВЕЦ. Не пакідаюць аніякіх шанцаў "сесці на іголку" супрацоўнікі міліцыі. Сумесна з мытнікамі і пагранічнікамі праводзіцца аперацыя "Мак".***

Яе асноўныя мэты— выяўленне наркотыкаў, каналаў іх перапраўкі праз мяжу, а таксама затрыманне так званых "дзялкоў наркабізнесу". Але не толькі апошнія могуць быць прыцягнуты да адказнасці, а і тая самая вясковая бабулька, якая з восені сабрала на агародзе мак, забыўшыся выкінуць ці спаліць саломку.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Колькі каштуе здароўе

***СМАРГОНЬ. Чатырохгадовы Дзіма Сячынскі інвалід. Хутка ён з маці паедзе ў Тулу на аперацыю. 14 мільёнаў расійскіх рублёў каштуе "падарожжа". Безумоўна, сям'і, у якой з дзяцей яшчэ шасцігадовая дзяўчынка, самастойна столькі грошай не зарабіць (маці, да таго ж, не працуе, даглядае сына).***

Мясцовае аддзяленне інвалідаў звярнулася да жыхароў па дапамогу. На боль адгукнуліся Леанід Дубіцкі (фірма "Ліст"), Аляксандр Чуковіч (камбікормавы завод), Надзея Маліванава (магазін "Журавінка").

*Аддзел інфармацыі.*

### "Пілігрым" на байдарцы і з веласіпедам

***МАЛАДЗЕЧНА. Аматары турызму і спорту з Мінскай вобласці правялі традыцыйнае адкрыццё пешаходнага сезона.***

Марозным красавіцкім днём удзельнікі свята зрабілі свой першы паход па маршруце станцыя Раманы— помнік М. Гастэлу— Вязынка. Каманды правялі спаборніцтвы па футболе, валейболе і конкурс мастацкай самадзейнасці. Прынялі ўдзел і аматары турызму з маладзечанскага клуба "Пілігрым".

Як расказаў прэзідэнт турклуба С. Бялкоў, у Маладзечне таксама пачалася падрыхтоўка да турыстычных паходаў. У першыя дні мая ўсе жадаючыя рушаць па рацэ Нёман на байдарках. Адным з бліжэйшых падарожжаў стане і веласіпедны паход па Віцебшчыне і Міншчыне.

*Наталля РАБЧАНКА.*

**Маладзечанскі аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю смуткуе з прычыны заўчаснай смерці старшага оперупаўнаважанага Анатоля Аляксеевіча МАРКЕВІЧА і выказвае спачуванні родным.**

